



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

15 ліпеня 2016 года №29 **(1107)**








# 100 балаў за ЦТ



## Як рыхтавацца да ЦТ, каб здаць на 100 балаў, і куды паступаюць разумнікі сёлета

**Ангеліна Лазар з Вілейкі здала цэнтралізаванае тэставанне на 100 балаў.**

**старонка 2**

Фота забяспечана Ангелінай ЛАЗАР.

ТЭМА НУМАРА

# 100 балаў на тэставанні? Лёгка! Галоўнае, верыць у свае сілы

**Маладзечанец Андрэй Грышан і віляйчанка Ангеліна Лазар адныя з тых сёлетніх выпускнікоў, якія пабачылі ў сваіх сертыфікатах цэнтралізаванага тэставання запаветную лічбу 100.**

Пра тое, як прайшлі яны гэты шлях, нашы героі распавядуць самі.

**Андрэй Грышан**, выпускнік гімназіі-каледжа мастацтваў з Маладзечна:

### “100 балам узрадаваўся, але не вельмі, бо ведаў, што так будзе”.

Здаў цэнтралізаванае тэставанне па біялогіі на 100 балаў.

Андрэй да цэнтралізаванага тэставання пачаў рыхтавацца ад пачатку года. Па ўсіх прадметах займаўся з рэпетытарамі. Але, як прызнаецца сам, без зацятасці і старанна працы не абышлося.

– Абраў біялогію таму, што яна мне цікавая, як і хімія, і спецыяльнасці, куды паступаюць з гэтымі прадметамі, досыць прэстыжныя і запатрабаваныя. Вядома, была радасць, калі даведаўся, што атрымаў 100 балаў, але не такая моцная, бо пасля тэста я чакаў такога выніку. Бацькі ж былі вельмі задаволеныя, як і ўсе сваякі. Па астатніх прадметах здаў таксама нядрэнна, але мог і разлічваў на большае. Хімію здаў на 76 балаў, а рускую мову – на 93 балы.

Паступаць Андрэй збіраецца ў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт на фармацэўтычны або на лячэбны факультэт – пакуль хлопец яшчэ не вызначыўся.

– Я буду глядзець па конкурсе, праходжу ці не. А заданні на тэставанні былі нескладаныя, хоць былі і не падобныя на заданні з папярэдніх гадоў. Ну, і без шанцавання, напэўна, не абышлося. Усе заданні былі зразумелыя, і адказы я ведаў на ўсё. Нават неяк дзіўна… На тэставанні было ўсё, пра што я ведаў.

**Ангеліна Лазар**, выпускніца гімназіі №2 з Вілейкі.

Здала тэставанне па рускай мове на 100 балаў.

### “Каб здаць тэставанне на 100 балаў, трэба выдзяляць на падрыхтоўку дзве гадзіны ў дзень”

Рускай мовай дзяўчына пачала займацца ў 10 класе. Першапачаткова Ангеліна хадзіла на школьныя факультатывы, на якіх настаўніца складала для будучых медалістаў і 100-бальнікаў схемы і алгарытмы, па якіх было дастаткова лёгка вывучыць і запомніць матэрыял.

– З 11 класа я пачала мэтанакіраваную падрыхтоўку да ЦТ. Акрамя ўрокаў і факультатываў, рэгулярна рабіла заданні дома. Два разы на тыдзень, акрамя школы, выдзяляла па некалькі гадзін на выкананне практыкаванняў і тэстаў. Рашала тэсты мінулых гадоў. За гэты час зразумела, на што зрабіць упор і акцэнт. Калі выканала мноства тэстаў, заўважыла, на чым складальнікі тэстаў хочуць падлавіць, бо заданні і іх тып у большасці выпадкаў – ідэнтычныя.



Рускую мову Ангеліна абрала таму, што дзяўчыне здаецца, што правілы рускай мовы ёй даюцца лягчэй і прасцей засвойваюцца.

– Беларускую мову вельмі люблю, яна неверагодна прыгожая, але выбрала ўсё ж рускую. І ёсць у мяне прыродная пісьменнасць. Гэта ў мяне ад сям'і.

Вынік тэста Ангеліну, як яна кажа сама, шакаваў.

– Я, вядома, ведала, што магу разлічваць на добры вынік, бо з тэстамі дома і на рэпетыцыйным тэставанні я спраўлялася добра. Калі шчыра, ні разу не рабіла тэсты без адзінай памылкі. Яны былі, але ў невялікай колькасці. Таму, убачыўшы вынік, я была вельмі задаволеная. Зрабіць усе заданні правільна ў мяне атрымалася ўпершыню. Тым больш, мовы вельмі цяжка здаваць, бо гэта адзіныя прадметы, у якіх ёсць некалькі правільных варыянтаў адказаў. Выпусціш адну галачку ў адказе – і ўвесь вынік дадзенага задання дарэмны. Перад ЦТ вельмі хвалявалася, бо баялася напісаць ніжэй за свае магчымасці. Калі пачала рабіць, супакоілася і сканцэнтравалася. Заданні выканала вельмі хутка, у астатні час старанна ўсё перапраўярала. Калі выйшла з кабінета, спалохалася, стала перажываць, што дапусціла памылкі, што нешта важнае ўпусціла. Не магла паверыць, што ўсё аказалася дастаткова лёгка. Таму думкі мучылі. Чакала добрага выніку, але дакладна не 100 балаў.

Акрамя рускай мовы, Ангеліна здавала хімію і біялогію. Біялогію напісала на 94 балы, дапусціла дзве памылкі.

– Дзякуй за такі добры вынік маёй маме, **Алене Чаславаўне Лазар**, якая выкладала ў мяне біялогію. Мы ўвесь час з ёй разам займаліся, рыхтаваліся да алімпіяд, дзе таксама не без поспехаў. Хімію здала крыху горш, але вынікам задаволеная. Балаў цалкам дастаткова, каб паступіць на лячэбную справу ў медыцынскі ўніверсітэт.

А ўсім будучым выпускнікам Ангеліна жадае спакою і толькі спакою.

– Галоўнае, не хвалявацца і верыць у свае сілы! Гэта важна. Праверана на сабе. Проста настроіцца на вынік і імкнуцца да яго. І, вядома, рэгулярна рабіць заданні. Будзеце выдзяляць хоць дзве гадзіны ў тыдзень – вынік не прымусіць сябе чакаць.

**Фота з асабістых старонак Андрэя Грышана і Ангеліны Лазар “Укантакце”.**



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Баршчэўнік выкопваю і спальваю. І так ужо пяць гадоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Іван Міхайлавіч Дурэйка, жыхар вёскі Грудкі, трывогу пачаў біць пяць гадоў таму, калі на сваім участку заўважыў маладзенькія парасткі баршчэўніку.**



Архіў "РГ".

Берагі сажалак у вёсцы Любань Вілейскага раёна зараслі баршчэўнікам.

– Кожную вясну я выкопваю і спальваю той баршчэўнік, а ў яго ж карэнні па паўметра. Але куды ад яго дзенешся, калі ля фермы, што стаіць на гары, цэлыя зараснікі гэтай атруты?

Іван Міхайлавіч неаднойчы звяртаўся да ўладаў:

– Благога я нічога сказаць не магу. На звароты рэагуюць. Прыязджаюць, косяць. Але што ж касіць? Баршчэўнік цяпер цвіце, птушкі яго насенне разнясуць зноў.

### Яшчэ пяць гадоў таму баршчэўнік душылі бульдозерам

Начальнік маладзечанскай райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Уладзіслаў Чарноў** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што жыхары Маладзечанскага раёна звяртаюцца па дапамогу часта, але сёлета значна менш, чым у мінулым годзе.

– У раёне ёсць некалькі ачагоў узнікнення баршчэўніку, адразу магу назваць вёскі Насілава, Лешна, Слабодка. Ёсць і станоўчыя прыклады. Напрыклад, у Лебедзеве на месцы, дзе яшчэ год таму рос баршчэўнік, цяпер расце пшаніца. Трэба пазбаўляцца ад пустуючых земляў.

У наступным годзе, па словах Уладзіслава Чарнова, будзе ставіцца пытанне аб меліярацыі земляў, максімальна праводзіцца раскарчоўка і іх апрацоўка.

– Сёлета выдаткавана 200 мільёнаў рублёў на барацьбу з баршчэўнікам. На гэтыя сродкі закупленыя хімікаты – гербіцыды. Калі апрацоўваеш баршчэўнік гэтымі хімікатамі, ён сохне. Але існуе праблема з насеннем.

**Адна расліна баршчэўніку можа даваць да 100 тысяч насення.**

На дапамогу ўладам у барацьбе з пустазеллем прыходзяць і іншыя службы.

– У ПМК-32 створана спецыяльная брыгада, якая таксама дапамагае змагацца з баршчэўнікам. Ведаю, што падобная служба існуе і ў Вілейцы.

Як прызнаваліся ў ПМК, яшчэ пяць гадоў таму ім даводзілася душыць зараснікі баршчэўніку бульдозерам, цяпер дапамагаюць і хімікаты.

Уладзіслаў Чарноў падкрэслівае, што, каб перамагчы баршчэўнік, кожны гаспадар на сваім участку павінны сачыць за яго з'яўленнем, і як толькі заўважыць парасткі, выкопваць.

– Толькі не забывацца на тэхніку бяспекі. Баршчэўнік пакідае апёкі ў сонечнае надвор'е, але і ў дождж трэба быць пільнымі і асцярожнымі.

**Наталля ТУР.**

## "Дайце нам цішыню!" – просяць жыхары дома па Вялікім Гасцінцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Да нас у рэдакцыю з лістом звярнулася жанчына, якая жыве па Вялікім Гасцінцы ў доме №62. Там, дзе будуецца дзевяціпавярхоўка.**

Яна піша:

*"Хачу звярнуцца да вас з просьбай аб дапамозе. Вы, напэўна, ведаеце аб будаўніцтве новага жылога дзевяціпавярховага дома на былым стадыёне ўліково-планавага тэхнікума?*

*Усё бы нічога, хай будуецца, усе ж хочуць новыя кватэры, але тое, што будуюцца яны і днём, і ноччу… І гэта ў будні пацярпець можна, хоць не вельмі, асабліва калі сярод ночы вас будзяць крыкі рабочых…*

*Самі разумееце, што гэта такое, калі будоўля знаходзіцца ў 20 метрах ад вашых вокнаў, якія пры спякоце на ноч проста немагчыма закрыць!*

*І мы, жыхары суседніх дамоў, зміріліся з тым, што будоўля ідзе ў будныя дні, але на выхадных!*

*Хлопцы, у ВЫХАДНЫЯ ДНІ ДАЙЦЕ АДПАЧЫНАК! ДЗЕ І ХТО абароніць НАШЫ ПРАВЫ?*

*Калі б я парушыла цішыню пасля 23 гадзін, на мяне хутка знайшлі б управу суседзі, а хто можа абараніць НАС ?*

*Куды не тэлефанавалі, нікому няма справы, а чаму?*

*І яшчэ б нічога. Уяўляеце, перад домам №62 9 чэрвеня выкапалі роў для будаўніцтва стаянкі для машын. Скажаце – радуйцеся? Радуемся ! Толькі праз гэты роў трэба нашым дзеткам дайсці да адзіных арэляў і пясочніцы, якую самі вырабілі са звычайнага вялізнага кола ад машыны. Там велізарныя калдобіны і тырчаць карані, агароджы ніякай няма… Чаму ў нас пачынае ўсё рабіцца тады, калі нешта здарэцца? Дапамажыце!"*.

Па каментар мы звярнуліся да загадчыка аддзела гігіены Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Канстанціна Хархалёва**:

– Канешне, тэхналагічны шум павінны нармавацца. Вядомыя правілы для жылых дамоў, па якіх ні на выхадных, ні пасля 23:00 работы весціся не павінны. Што магу параіць жыхарам дома? Звярнуцца да нас, мы выедзем у начны час ці на выхадных, замераем узровень шуму і вынесем свае прадпісанні будаўнікам і звернемся ў выканкам з просьбай падкарэктаваць працоўны час.

Канстанцін Хархалёў усё ж папрасіў жыхароў суседніх дамоў паставіцца да будоўлі з разуменнем і цярпеннем:

– Гэта ж часова, пабудуюць дом, усе наладзіцца.

**Наталля ТУР.**

ЛІЧБА НУМАРА

**618** столькі магазінаў на Маладзечаншчыне

**206** з іх прадуктовыя

Паводле Маладзечанскага райвыканкама

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 7.07 | 14.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0159 | **2,0046** |
| Еўра | 2,2299 | **2,2148** |
| Злоты, 10 | 5,0047 | **5,0438** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,1181 | **3,1333** |
| Грыўня, 100 | 8,0627 | **8,0806** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 13.07** | | |
| Еўра | 2.2000/2.2400 | **2.2000/2.2300** |
| Долар ЗША | 2.0000/2.0150 | **1.9850/2.0100** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 6.07 | | 13.07 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 143 700 | 14,37 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | 8,00 | 80 000 | 8,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 24 700 | 2,47 | 24 700 | 2,47 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 500 | 1,45 | 14 500 | 1,45 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | 1,45 | 14 500 | 1,45 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 16 500 | 1,65 | 16 500 | 1,65 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9 500 | 0,99 | 9 900 | 0,99 |
| Часнок, 1 кг (малады) | 69 900 | 6,99 | 69 500 | 6,95 |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 9 500 | 0,95 | 8 900 | 0,89 |
| Морква, 1 кг (маладая) | 5 000 | 0,50 | 11 900 | 1,19 |
| Баклажаны, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 24 900 | 2,49 |
| Лімоны, 1 кг | 54 900 | 5,49 | 55 000 | 5,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 24 500 | 2,45 | 24 000 | 2,40 |
| Мандарыны, 1 кг | 29 000 | 2,90 | 39 900 | 3,99 |
| Нектарыны, 1 кг | 39 900 | 3,99 | 43 900 | 4,39 |
| Абрыкосы, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 30 000 | 3,00 |
| Ківі, 1 кг | 26 500 | 2,65 | 27 000 | 2,70 |
| Буракі, 1 кг | 12 500 | 1,25 | 12 500 | 1,25 |
| Памідоры, 1 кг | 23 000 | 2,30 | 16 500 | 1,65 |
| Агуркі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 13 900 | 1,39 |
| Перац, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 24 900 | 2,49 |
| Кавун, 1 кг | 13 000 | 1,30 | 10 000 | 1,00 |
| Дыня, 1 кг | 35 000 | 3,50 | 30 000 | 3,00 |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 10 900 | 1,09 | 8 500 | 0,85 |
| Вінаград, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 43 000 | 4,30 |
| Бананы, 1 кг | 22 500 | 2,25 | 22 500 | 2,25 |
| Яблыкі, 1 кг | 12 900 | 1,29 | 13 500 | 1,35 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | 2,99 | 32 500 | 3,25 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 10 000 | 10,00 | 10 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 11 000 | 1,10 | 10 000 | 1,00 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## Ліквідавалі найбуйнейшы ў Мінскай вобласці падпольны цэх па вытворчасці самагонкі

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС ліквідавалі найбуйнейшы нелегальны цэх па вытворчасці самагонкі. Канфіскавалі больш за 500 літраў свежага самагону і 14 тон брагі.

Гэта самая буйная канфіскацыя самапальнай спіртазмяшчальнай вадкасці на тэрыторыі Мінскай вобласці ў гэтым годзе, паведамляе прэс-служба УУС Мінаблвыканкама.

Як паведамляюць праваахоўнікі, на самагоннай вытворчасці працавалі двое братоў – 39 і 40 гадоў. Працэс быў арганізаваны ў вёсцы Кізілава. Браты прыстасавалі для гэтага адзін з нежылых дамоў. Вытворчасць дазваляла штодня выдаваць некалькі соцень літраў спіртнога, якое неадкладна адпраўлялася на продаж.

Самагоншчыкі збывалі свой прадукт оптам, так званым розничным рэалізатарам з Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў. У гэтым сэнсе было дастаткова ўдала выбранае месцазнаходжанне самагоннага цэха – вёска якраз знаходзіцца на мяжы двух раёнаў. Цана для рэалізатараў складала тры рублі за літр, у розніцу алкагольны прадукт сыходзіў, як правіла, у два разы даражэй.

Асобна варта сказаць аб умовах і спосабах вытворчасці. На ўсіх этапах размова не ішла нават пра хоць нейкія санітарныя нормы, а пры закісанні ўжываліся хімічныя дадаткі. Каб атрымаць максімальную выгаду і паскорыць вытворчы працэс, самагоншчыкі дадавалі ў брагу ў вялікай колькасці так званы актыватар закісання, у выніку чаго брага была гатовая да перагонкі ўжо праз 3-4 дні замест 6-7 дзён.

Супрацоўнікі міліцыі заспелі самагоншчыкаў непасрэдна пасля завяршэння перагонкі. Да цяперашняга часу праведзены мерапрыемствы па дэмантажы самагоннага апарата. Канфіскаваныя вадкасці накіраваныя на экспертызу, пасля чаго будзе вырашацца пытанне аб прыцягненні правапарушальнікаў да адказнасці.

**News.tut.by.**

## Віляйчанін для забавы страляў у дом насупраць

МАЛАДЗЕЧНА

**У адзін з вечароў леташняга снежня мужчына на сваім балконе на пятым паверсе пачуў воплеск і ўдар нейкага прадмета аб шкло балконнай рамы.**


Фота dumskaya.net.

Гаспадары пнеўматычных пісталетаў павінны памятаць пра правілы бяспекі.

Выглянуўшы ў акно, заўважыў у доме насупраць на балконе трэцяга паверха нейкія сілуэты. Крыкнуў, каб перасталі хуліганіць.

Пасля пры аглядзе заўважылі пашкоджанні аконнага блока кватэры на пятым паверсе, а таксама трох аконных блокаў у пад'ездзе дома.

На наступны дзень па гэтым факце раённы аддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу. У той жа дзень па падазрэнні затрымалі двух маладых людзей. Яны патлумачылі, што сапраўды былі ў той вечар на трэцім паверсе. Разам з імі было яшчэ чацвёра маладзёнаў. Адзін з затрыманых патлумачыў, што пры ім быў пнеўматычны пісталет, але ні ён, ні яго сябар – другі затрыманы – з пісталета не стралялі.

18-гадовы ўраджэнец Вілейкі па-сяброўску папрасіў пісталет у гаспадара. Апошні ў просьбе не адмовіў.

**Віляйчанін, выйшаўшы на балкон, выцягнуў руку і пачаў страляць у накірунку дома насупраць. Стрэліў не менш за сем разоў.**

Пасля прад'яўлення абвінавачання малады чалавек прызнаў, што страляў з пнеўматычнага пісталета, не цэліўся. І не прадбачыў наступствы небяспечных дзеянняў.

У красавіку суд прызнаў яго вінаватым у наўмысных дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак і суправаджаюцца пашкоджаннем чужой маёмасці. Яму прызначылі пакаранне – арышт на адзін месяц.

Абаронца абвінавачанага падаў апеляцыю, якую абласны суд пакінуў без задавальнення.

У чэрвені прыгавор уступіў у законную сілу.

Пнеўматычныя пісталет набываюць без дазволу і не рэгіструюць, але не забывайце пра правілы бяспекі пры выкарыстанні.

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 2 класа.**

## Шукаюць 28-гадовага маладзёна

МЯДЗЕЛ



Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта шукае зніклага **Дзяніса Аляксандравіча Матошку**.

Ён нарадзіўся 25 кастрычніка 1987 года ў Маладзечне. Жыве ў вёсцы Стругалапы Мядзельскага раёна.

Каля 23 гадзін 29 красавіка ён выйшаў з вёскі Слукі Мядзельскага раёна ў вёску Стругалапы. Дагэтуль яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы Дзяніса:** на выгляд 28-30 год, рост каля 180 сантыметраў, хударлявы. Смуглы твар, шэрыя вочы, прамыя цёмна-русыя кароткія валасы. Звонкі голас, няўцямная гаворка. Гаворыць хутка, у ап'яненні заікаецца. 40-41 памер нагі.

Мае шрам на левай руцэ каля двух сантыметраў і сляды ад швоў, шрам на правым брыве каля 0,5 сантыметра.

**Быў апрануты** ў цёмна-сінія джынсы, цёмную байку з капюшонам.

Калі ў вас ёсць інфармацыя пра месцазнаходжанне Дзяніса Аляксандравіча, просім паведаміць па тэлефонах: **(801797) 55-8-64, 55-4-71 ці 102.**

**Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта.**



## Жыхарка Смаргоншчыны скрала кілаграм сала, які тут жа з'ела

СМАРГОНЬ

У Смаргонскім раёне за здзяйсненне крадзяжу прыйдзецца адказваць мясцовай 44-гадовай жыхарцы.

Раней судзімая таксама за крадзеж, жанчына вырашыла зноў пераступіць закон, прычым зрабіла гэта, дакладна ўсё распланаваўшы.

Для пачатку выехала на раён і выбрала домік у вёсцы, у які вырашыла забрацца. Потым дачакалася, пакуль гаспадар жылля яго пакіне, пасля чаго, пашкодзіўшы замок, патрапіла ўнутр. Узбагаціцца даме не ўдалося. Грошай падазраваная не адшукала, затое прыхапіла кілаграм сала, які пасля з'ела.

Прадукт прыйшоўся дарэчы, бо жанчына нідзе не працуе і мае праблемы з рэгулярным харчаваннем.

Распачатая крымінальная справа па артыкуле "крадзеж, учынены з пранікненнем у жыллё".

**Ігар Белазёраў, uvd.grodno.by**

## У Маладзечне ў двары кіроўца збіў 8-гадовага хлопчыка

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 12 ліпеня ў 20:00 у двары дома №157, што па Вялікім Гасцінцы.

30-гадовы кіроўца, рухаючыся на аўтамабілі "Сітраэн-Эвазіён", наехаў на маленькага хлопчыка, які перабягаў праезную частку. Васьмігадовы хлопчык атрымаў траўму ступні, шпіталізацыя яму не спатрэбілася.

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці настойліва рэкамендуе бацькам кантраляваць дзяцей.

Перад тым, як адправіць дзіця на вуліцу, пагаварыце з ім пра бяспечныя паводзіны, не будзе і лішнім яшчэ раз паўтарыць асноўныя Правілы дарожнага руху.

## У Вілейцы на 13-гадовую дзяўчыну наехала "Рэно"

ВІЛЕЙКА

Адбылося гэта каля 11:30 7 ліпеня. 68-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Рэно-Лагуна" і наехаў на 13-гадовую дзяўчыну. Яна перахodзіла праезную частку па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

У выніку падлетка з траўмамі даставілі ў бальніцу.

**Паводле ДАІ Міншчыны.**

## Гружаны камбікормам МАЗ праехаў па назе пешахода ў Ашмянах

АШМЯНЫ

Няшчасце здарылася 5 ліпеня ў Ашмянах.

Чалавек выйшаў на вуліцы Чырвонаармейскай на праезную частку за пешаходным пераходам. Ён быў справа па ходзе руху МАЗа.

Ён выйшаў раптоўна, не выказаўшы намеру так зрабіць.

Кіроўца загружанай камбікормам машыны не паспеў адрэагаваць. Перад пешаходным пераходам ляжыць "спячы паліцэйскі", і МАЗ ехаў марудна.

Але сутыкнення не ўдалося пазбегнуць: машына штурхнула пешахода фарай і праехала колам па яго назе.

Пешаход шпіталізаваны ў рэанімацыю.

**Паводле ДАІ Гродзенскай вобласці.**



Фота забяспечанае Андрэем ГАЙЧУКОМ.

Калекцыю грошай Андрэю Гайчуку дапамагае збіраць жонка Вольга. Яна і знайшла першую купюру – 50 тысяч рублёў, напісаную праз “е” (пяцьдзесят тысяч рублёў).



Фота забяспечанае Андрэем ГАЙЧУКОМ.

Адзін з гонараў калекцыі – 1 мільён рублёў.



Фота забяспечанае Андрэем ГАЙЧУКОМ.

Пакуль у калекцыі Андрэя самая вялікая па наміналу купюра – 500 мільярдаў дынараў.

# Дэнамінацыя падштурхнула сабраць калекцыю грошай

ВІЛЕЙКА

**Віляйчанін Андрэй Гайчук грашовыя купюры пачаў збіраць недзе два гады таму: знаходзіў беларускія рублі старога ўзору дома, адкладаў грошы ў добрым стане.**

Калі даведаўся пра надыходзячую дэнамінацыю, вырашыў сабраць паўнавартасную калекцыю.

Зачаткі былі пакладзены на дзень нараджэння, 12 мая, – жонка, **Вольга,** падарыла альбом для банкнот і справа пайшла.

Цяпер у мужчыны амаль уся калекцыя беларускіх рублёў, пачынаючы ад “вавёрачак” і “зайчыкаў”.

У альбоме пераважна беларускія грошы, але ёсць і замежныя. Усяго каля 200 банкнот.

– Пакуль у маёй калекцыі не хапае самай буйной у гісторыі Беларусі банкноты – 5 мільёнаў рублёў 1999 года выпуску і 500 тысяч рублёў 1998 года выпуску, – расказвае віляйчанін. – Але грошы 1998 года павінны прыйсці па пошце да канца тыдня. А вось адзін з гонараў маёй калекцыі – 1 мільён рублёў даўно ў альбоме.

### Паляваў за новымі грашамі

Новыя грошы мужчыну як мага хутчэй хацелася патрымаць у руках. Таму зладзіў сапраўднае паляванне за імі. Спачатку знімаў грошы ў банкамаце “Беларусбанка” ў Вілейцы.

– Было гэта а восьмай раніцы. Банкамат быў пераведзены на новыя грошы, але па запыту 10 рублёў атрымаў 100-тысячную купюру старога ўзору. А 11 гадзіне дня атрымаў новыя купюры, – дзеліцца ўражаннямі Андрэй.

Па адчуваннях Андрэю больш даспадобы новыя купюры: і колерам, і аздабленнем, і памерам. Тым больш, нечым нагадваюць еўра.

### Жонка дапамагае збіраць калекцыю

Віляйчанін вельмі б хацеў атрымаць купюры вялікіх наміналаў іншых краін, напрыклад, зімбабвійскі долар з найбольшым наміналам ў 100 трыльёнаў, венгерскі пёнге з самым вялікім наміналам у свеце – мільярд трыльёнаў.

– Пакуль у маёй калекцыі самая вялікая па наміналу купюра – 500 мільярдаў дынараў, расказвае Андрэй. – Яе прывёз з Чарнагорыі, набыў на Будве на рынку. Ёсць памятная банкнота – 100 расійскіх рублёў Рэспублікі Крым. Яе падарыў сябар з Піцера.

Родным Андрэя таксама цікава паглядзець яго калекцыю. Жонка дапамагае яе збіраць. Яна і знайшла першую купюру – 50 тысяч рублёў, напісаную праз “е” (пяцьдзесят тысяч рублёў). Цяпер у калекцыі Андрэя тры такія банкноты.

– Той, хто раней пачынаў збіраць банкноты Беларусі, маглі адкласці патрэбныя экземпляры, – расказвае мужчына. – Але цяпер сустрэць купюру з такім напісаннем – рэдкасць. Ва ўсялякім выпадку для мяне.

**Галіна СІНІЦА.**

**Даведка “РГ”.** Баністы – людзі, якія калекцыянуюць папяровыя грошы.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# 5 мільёнаў еўра на праграму кантактаў у Беларусі.

## Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія расказвае пра супрацоўніцтва паміж краінамі

**У Брэсце з рабочым візітам знаходзіўся новапрызначаны пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія Петэр Дэтмар.**



Фота з фондаў Пасольства Германіі ў Мінску.

Ён пагадзіўся адказаць на некалькі пытанняў карэспандэнта “Брестского курьера”.

**Яўген Бяласін:** Ці ёсць першыя ўражанні ад краіны пасля прызначэння на пасаду пасла Германіі ў Беларусі? Калі так, то якія?

**Пасол Петэр Дэтмар:** Як Вы ведаеце, я быў ужо ў краіне ад 2009 да 2013 года, і быў з ахвотай. На тое было шмат прычын. Тады не толькі быў у Мінску, шмат ездзіў па рэгіёнах. Цяпер, пасля прызначэння ў Мінск, займаюся тым, што наноў адкрываю для сябе тое, што прынесла такое задавальненне раней. Што кідаецца ў вочы падчас маіх паездак, дык гэта што за 2-3 гады было шмат пабудавана, было створана шмат дадатковых магчымасцяў, каб зрабіць жыццё ў гарадах больш прыемным. Натуральна, і каб захаваць і аднавіць тое, што ў краіне яшчэ можна знайсці гістарычнага. З прыемнасцю думаю пра далейшыя паездкі.

**Я.Б.:** Нямецкі бок выйграў тэндар Еўрасаюза на тое, каб выконваць у Беларусі праграму кантактаў паміж грамадзянамі “MOST”. Яна разлічаная да 2017 года. Мы пра яе пісалі. Ці ёсць цікавая для нашых чытачоў статыстыка? Ці не перасіліўся часам спадар доктар Баер?

**П.П.Д.:** Па-першае, адміністраванне гэтай праграмы выйграў на тэндары мінскі Інстытут імя Гётэ. Ён яе і вядзе, у супрацы з Брытанскай Радай.

Па-другое, мы кажам пра 5 мільёнаў еўра, якія выдаткаваныя ў якасці бюджэту праграме.

Па-трэцяе, мы кажам пра больш чым 1 500 абменаў, якія адбудуцца ў рамках гэтай праграмы, мы кажам пра больш за 5 000 заявак, якія на сёння ўжо пададзеныя, і мы кажам пра тое, што спадар Баер выключна добра спраўляецца са сваёй працай. Ён не перасіліўся, ні ў якім выпадку, ён цудоўна спраўляецца, але ён не вырашае – спадар Баер займаецца адміністраваннем, ён кіруе праграмай. А што з-за пунктуальнай працэдуры разгляду бываюць прамаруджванні, то не ён таму прычынай. Такая працэдура разгляду, бо трэба ж даць пазітыўны або негатыўны адказ на кожную заяўку. Для праграмы вырашальнае значэнне мае тое, каб партнёры былі празрыста акрэсленыя, каб беларускія заяўнікі дакладна ўяўлялі сабе, а чым яны будуць займацца з еўрасаюзаўскім суаўтарам заяўкі падчас кароткага, але і чатырохтыднёвага знаходжання.

Такім чынам, праграма выконваецца, і выконваецца паспяхова, і мы гэтым вельмі задаволеныя.

**(...)**

**П.П.Д.:** Але я хачу назваць яшчэ аднаго вядомага чалавека. Гэта Леанід Левін, які колькі гадоў таму быў узнагароджаны ордэнам “За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германія”. Леанід Левін – гэта фантастычны будаўнік мастоў паміж Рэспублікай Беларусь і Федэратыўнай Рэспублікай Германія, у асаблівасці з увагай на цёмныя старонкі гісторыі як фон, калі ад імя немцаў на тэрыторыі цяперашняй Рэспублікі Беларусь чыніліся жахлівыя злачынствы. Менавіта як прадстаўнік яўрэйскай абшчыны тут, у Рэспубліцы Беларусь, Леанід Левін знайшоў самае вялікае прызнанне ў Германіі.

**Я.Б.:** У Заходняй Еўропе лета – гэта час адпачынку. А як справы абстаяць з вашым пасольствам у Мінску? І можа, будуць якія цікавосткі восенню?

**П.П.Д.:** Адзіны месяц, які выпадзе больш спакойным, гэта жнівень. Калі казаць пра восень, то вылучу з падзей планавыя нашы тыдні нямецкай мовы і культуры.

**Інтэрв'ю ўзяў Яўген БЯЛАСІН, “Брестский курьер”.**



Уладзімір Някляеў падчас святкавання юбілею ў Мінску. Фота svaboda.org.

# Наш зямляк паэт Уладзімір Някляеў адзначыў 70-годдзе

СМАРГОНЬ

Уладзіміра Пракопавіча прызнаюць адным з найзнакамітых паэтаў сучаснасці. Каб адзначыць святочную падзею, ён зладзіў 11 ліпеня сустрэчу ля помніка Янку Купалу ў Мінску.

На імпрэзе ён чытаў вершы, прымаў віншаванні і прэзентаваў новую кнігу – "Толькі вершы".

На старонцы Някляева ў сацыяльнай сетцы Фэйсбук шмат прыгожых і шчырых слоў. А вось што піша пасля падзеі сам паэт:

"Дарагія людзі, дзякую за свята, прынесенае 11 ліпеня да помніка Янку Купалу разам з кветкамі!

Мне сказалі, што відаць было, як на прэзентацыі кнігі "Толькі вершы" я хваляваўся. Не стану гэтага аспрэчваць. Так, хваляваўся. Бо ніхто не мог гарантаваць, што не набягуць міліцыянеры, не пачнуць складаць пратаколы на штрафы ці затрымліваць людзей. І ніхто з тых, хто прыйшоў у Купалаўскі сквер, не ведаў, чым усё скончыцца. (...)

Вы прыйшлі, як пісаў Купала, ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА!

Самае галоўнае, што выявілі вы каля помніка Купалу – чалавечую годнасць. Гэта найпершае, што я асабіста цаню ў кожным – і стараюся не страціць у сабе. Нідзе, ні ў якіх умовах. Без годнасці няма чалавека, няма без годнасці народа. І ў каторы раз я пераконваюся, што яна ў нас, у беларусах, ёсць. Таму й жыве Беларусь!

*Бясконца наша мара*
*аб свабодзе*
*Вядзе нас па зямлі і*
*па вадзе,*
*Як сонца, што ніколі*
*не заходзе,*
*Як зорка, што ніколі*
*не ўпадзе!*

Яшчэ раз дзякуй вам за свята!"

Паэт Уладзімір Някляеў паходзіць з мястэчка Крэва. Менавіта пра яго ён зрабіў яшчэ адзін святочны допіс:

"Учора ў родным Крэве, стоячы на Юр'евай гары, згадаў, як стаяў тут 40 год таму, калі выйшла першая кніга, якую назваў я "Сад на скрыжаванні", і хоць у выдавецтве яе перайначылі, перарабілі ў нешта іншае, у "Адкрыццё", ува мне яна заставалася садам, які квітнеў у душы, у якім было так светла і прасторна, што я, гледзячы, як бягуць і бягуць да небасхілу – і далей, за яго – крэўскія горы і пагоркі, раптам адчуў такую неверагодную моц, сілу, што само сабой выдыхнулася: "Ні канца мне, ні краю, я бязмежны, як свет, Уладзімір Някляеў, беларускі паэт!" – і тут жа, спускаючыся з гары, завінаваціўся перад светам, засароміўся: "Што гэта за пыха з мяне папёрла?.." Нідзе гэтыя радкі я не друкаваў, нават не ўспамінаў.

І вось праз сорак год, стоячы на той жа гары і гледзячы, як бягуць і бягуць да небасхілу – і далей, за яго – крэўскія горы і пагоркі, думаў: "Вось ён, мой сад на скрыжаванні, маё Крэва, мая Беларусь з каранямі ў глыбінях часу і вершалінамі ў вышынях неба! Яна была, ёсць і будзе той зямлёй, над якой лунае крывіцкі дух такой моцы і сілы, што яго не перайначыць, не перарабіць у нешта іншае, хто б і як бы таго ні дамагаўся. І гэтая моц, і гэтая сіла зноўку ўвайшла ў мяне, бліснула, як маланка на небасхіле, громам пракацілася там, далёка, над Перуновай гарой – і тут жа ўспомнілася, зноў само сабой выдыхнулася:

*Ні канца мне,*
*ні краю.*
*Я бязмежны, як свет.*
*Уладзімір Някляеў.*
*Беларускі паэт.*

І гэтым разам, спускаючыся з гары да руінаў Крэўскага замка, у якім дыхае, як яе ні знішчалі, ні перараблялі і ні перайначвалі, наша гісторыя, не адчуў я перад светам ні віны, ні сораму".

Аддзел інфармацыі.

**Даведка "РГ". Уладзімір Някляеў –** беларускі паэт, празаік, і грамадска-палітычны дзеяч, лаўрэат шэрагу прафесійных і дзяржаўных узнагарод за літаратурную дзейнасць. Намінант на Нобелеўскую прэмію ў 2011 годзе. Нарадзіўся 11 ліпеня 1946 года ў Крэве Смаргонскага раёна.



На сёлетніх раскопках гуты. Фота забяспечанае Аксанай ЯРАШОНАК.

# Якія знаходкі чакалі пры раскопках гуты ў Ільы

ВІЛЕЙКА

**Ад 20 чэрвеня да 4 ліпеня ў вёсцы Ілья Вілейскага раёна ўдзельнікі валанцёрскай экспедыцыі Інстытута гісторыі НАН Беларусі праводзілі раскопкі на месцы колішняй шкляной гуты, якая знаходзілася тут у 1760-х гадах.**

Кіравала экспедыцыяй аспірантка Інстытута гісторыі НАН Беларусі, выкладчыца кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін БДУ **Паліна Курловіч-Бяляўская.**

З гісторыі вёскі вядома, што ў другой палове 18 стагоддзя прадпрыемства па вытворчасці шкла (гуту) ва ўласным маёнтку Ілья на беразе ракі заснавалі браты **Юзаф** і **Антоні Салагубы**. Відаць, што на месцы, якое селёта даследавалі валанцёры, гута знаходзілася ў 1760-х гадах, а пасля была перанесеная ў іншае месца.

– Гэта ўжо другі сезон раскопак, – распавядае кіраўнік экспедыцыі Паліна Курловіч-Бяляўская. – Яны ўнікальныя тым, што з'яўляюцца першымі мэтанакіраванымі даследаваннямі магнацкіх мануфактур на тэрыторыі Беларусі. Вузкія храналагічныя межы помніка дазваляюць вызначыць характэрныя рысы матэрыяльнай культуры рэгіёна другой паловы 18 стагоддзя. У мінулым годзе раскопкі адбываліся "на перыферыі" прадпрыемства. А сёлета мы даследавалі непасрэдна вытворчую зону. Тут знайшлі канструкцыю печы, якая складалася з ацяпляльнай часткі і пабудовы, дзе варылася шкло. Падлога гуты складалася з гліны, дадаткова ўмацаванай цэглай. Вакол канструкцыі захаваліся рэшткі дрэва ад нейкай, магчыма, каркасна-пленецтай сцяны. Да ліку найбольш цікавых знаходак належаць рэшткі інструментаў шклароба́ў і фрагменты шкла, якія сведчаць аб тагачаснай тэхналогіі ў галіне шкларобства. Выяўленыя на помніку манеты, адчаканеныя ў 1730 – 1740-х гадах, пацвярджаюць час існавання гуты. Па-за межамі вытворчай пляцоўкі знайшлі вялізную яму, у якую рабочыя выкідалі смецце. Тут знайшлі шмат вытворчых адходаў: жужаль, аплаўленае шкло, вугаль, попел, дробныя кавалкі бітай цэглы, кроплі шкла, а таксама побытавага смецця: біты керамічны посуд, косткі рыб і жывёл.

**Зрабіўшы экспертызу костак, можна будзе вызначыць, чым харчаваліся рабочыя шклагуты.**

Знойдзеныя рэчы пакуль будуць захоўвацца ў фондах Інстытута гісторыі НАН Беларусі, а пасля ёсць верагоднасць іх перадачы ў Вілейскі краязнаўчы музей.

Па словах аднаго з валанцёраў **Ільі Пагадаева**, экспедыцыя сабрала зацікаўленых людзей з Мінска, Брэста, Бярозы, Вілейкі. Паўдзельнічаць у раскопках гуты прыехаў спецыяліст па шклу Новага часу з Кірава (Расія) **Аляксей Кайсін**. Сам Ілья, а таксама **Аляксей Барнюк**, **Інга Пяганава**, **Віталь Абрамовіч**, **Кацярына Лукша**, **Кастусь Ляпяшынскі**, **Дар'я Дзядзюля** – студэнты і выпускнікі гістарычных факультэтаў розных ВНУ краіны, а **Аляксей Марозаў** вучыцца ў Варшаўскім універсітэце.

Значную дапамогу валанцёрам аказалі мясцовыя жыхары. Удзельнікі экспедыцыі асабліва ўдзячныя мясцоваму краязнаўцу **Уладзіміру Кажамяку**, дырэктару Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца **Ігару Юшко** і ўсім супрацоўнікам гэтай установы, а таксама **Надзеі Філіповіч**, на чыёй зямлі вяліся даследаванні, і ўсёй яе сям'і.

На сёння раскоп закансерваваны, гэта значыць, што знойдзеныя аб'екты зафіксаваныя, але дасканала яшчэ не вывучаліся. Паліна Курловіч-Бяляўская і яе валанцёры плануюць вярнуцца сюды ў наступным годзе. Магчыма, што на гэтым месцы адбудзецца практыка студэнтаў гістарычнага факультэта БДУ.

Аксана ЯРАШОНАК.

## ПАДЗЯКА

Хачу выказаць шчырую падзяку майстру па рамонце абутку Артуру Геваргяну, які працуе ў гандлёва-адміністрацыйным цэнтры “Модуль” на другім паверсе, павільён 95-а.

Артур – майстар, які дорыць любімаму абутку другое жыццё. Пасля рамонту любы абутак становіцца яшчэ больш зручным і больш любімым.

Я ўжо больш за 10 год звяртаюся да Артура Геворгавіча і кожны раз дзіўлюся яго стараннасці і таленту.

**З падзякай, ваша сталая кліентка Вольга Мікалаеўна Казяк.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-2107, 1998 г.в., 1,5Б, 5 МКПП, 34 000 км, родны прабег, нефарбаваная, 27 мільёнаў рублёў. Т. (8-029) 1177995.
- Зіл-130, дызель Д245, самазвал- сельгаснік, добры стан. Т. (8-029) 8777563.
- Масквіч ІЖ-Комбі, 1988 г.в, блакітны, на хаду. Т. (8-029) 3141588, (8-044) 4828640.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Рэно-Вэлсаціс, 2003 г.в, хамелеон,2,2 dci, 7800 руб. Т. (8-029) 7046266.*
- ФВ Т2, дызель 1,6, легкавы. Т. (8-029) 3187448.*
- ФВ-Пасат В3, 1993 г.в., 19 ТД, выдатны стан, 4 000 руб. Т. (8-029) 8755766.
- ФВ-Пола, 1991 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 6647741.*
- Форд-Мандэа, 2000 г.в, 1,8 тд, сіне-зялёны колер, універсал. Т. (8-029) 3900633.*
- Хундай-Лантра, 1993 г.в, 1,5 бензін. Т. (8-029) 5528466.
- Шаўрале-Ланчэці, 2007 г., 1,6 бензін, прабег – 84 тыс.км, чорны. Вілейка. Т. (8-029) 8589290.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП “АртАлексСэрвіс” УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, можна аварыйнае, не на хаду. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмуркі і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр, 3-ці паверх. Т. (8-033) 6639658.
- 2-пакаёвая кватэра ў цагляным доме з лоджыяй у Маладзечне. Т. (8-029) 3553883.*
- 2-х пакаёвая кватэра ў Астраўцы па адрасе: пер. Кастрычніцкі, 7 (непадалёк ад ЦРБ). 1 паверх 2-х павярховага 8-кватэрнага дома. 3 рамонтам. Падвал, гараж, участак з градкамі. Спакойны двор. Металічныя дзверы, шклопакеты. Магчымы продаж з мэбляй і бытавой тэхнікай. +375 44 778-48-34. Просьба званіць ад 19 да 22 гадзін. Цана дагаворная.
- 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6150904.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Кватэра ў Маладзечне па Маркава, 1-ы паверх, прыватызаваная, 30 кв.м. Т. (8-029) 8766082.
- Гараж у ГБК № 12 у Маладзечне, можна ў растэрміноўку. Т. (8-029) 7198959.
- Дача ў в. Кардон Вілейскага р-на. Дом, лазня, калодзеж, 7 сотак. Участак крайні, каля леса. Т. (8-029) 2789116.*
- Дача, 3,5 км ад в. Краснае. Нядорага. Т. (8-0176) 548035, Вэлком 9751135.*
- Дом 70 кв. м, участак 15 с, сад. Т. (8-01771) 54399,21293, (8-044) 7638207.
- Дом драўляны ў в. Гарадок. Т. (8-029) 7540263. (8-025) 5083187.*
- Дом на дачу ў в. Бязводнае Вілейскага р-на. Т. (8-029) 5723243.
- Дом у аг. Любань Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6026288.*
- Дом у в. Асанава (5 км ад г. Маладзечна), 0,25 га, 104 кв. м, цэгла, газ, гараж, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 6103459.*
- Дом у в. Папоўцы Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 55349, маб. 858-75-18.*
- Дом у вёсцы Язжэнцы Мядзельскага р-на, 30 км ад Нарачы, побач рэкі Вузлянка і Нарачанка. Т. (8-029) 7765213.*
- Дом у Вілейцы альбо абменяю на 2-пакаёвую кватэру. Т. Вэлком (8-029) 3348878.*
- Дом у Маладзечне з усімі выгодамі, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом цагляны ў в. Вялікія Кашэўнікі, д.38, без гаспадарчых пабудоў. Цана дагаворная. Т. Вэлком 3262923.
- Домік у вёсцы. Тэрмінова. Нядорага. Т. (8-029) 2667211.*
- Зямельны ўчастак 9 сотак у в.Краснае, газ, вада. Т. (8-044) 5334720.
- Палову дома ў Вілейцы ў р-не Незалежнасці, ёсць усе выгоды. Т. (8-033) 6368364.*
- Участак 13 сотак з падмуркам 6Ч6, ад Вілейкі 1 км, р-н Вілейскага вадасховішча. Т. (8-033) 6125798 (Ірына).

### ЗДАМ

- 3-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна з мэбляй. Т. (8-029) 8500258.*
- У арэнду вытворча-складскія памяшканні:190 кв. м, 90 кв. м – р-н ЗПМ; 290 кв. м – Сасновы Бор. Асобная тэрыторыя. ТАА “Малметалкантракт” УНП 691398156. Т. (8-029) 1969033, (8-0176) 753513.
- У арэнду ралет 12 кв.м. у пабудове міні-рынку г. Ашмяны, 80 руб./месяц. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. Т. (8-029) 7758341.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абітурыент! Матэматыка, фізіка: падтрыхтоўка да ЦТ. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Рэпетытарства: вышэйшая матэматыка, чарчэнне, права. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077.*
- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Аграсядзіба “У Мароза” запрашае на адпачынак, банкеты. Т. (8-029) 6650884.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (балансаў), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **БУРЭННЕ СВІДРАВІН НА ВАДУ** без пад’езда тэхнікі. Магчымасць свідравання ў цяжкадаступных месцах. Глыбіня да 15 м – 550 рублёў. Растэрміноўка. Гарантыя. ІП Гардзееў О.А. УНП 691180377. Т. (8-029) 1506538.
- Бурэнне свідравін на ваду. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878, (8-029) 7860317.*
- Відэаназіранне. GSM СІГНАЛІЗАЦЫЯ ДЛЯ ДОМА, ОФІСА, ДАЧЫ. Іп Новік С.С. УНП 691398368. Т. (8-029) 3608535.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*











**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Чаму Валожын быў еўрапейскім цэнтрам іудзейскай адукацыі

ВАЛОЖЫН

**За сваю больш чым 600-гадовую гісторыю Валожын быў зусім розным па сваім этнічным складзе – літоўскім, польскім, яўрэйскім, беларускім.**

Першыя сотні гадоў сваёй гісторыі ён быў заселены пераважна этнічнымі літоўцамі-язычнікамі. Хрысціянскую, рымска-каталіцкую веру тут прымалі ў канцы 14 – пачатку 15 стагоддзя, пасля Крэўскай уніі.

### Першы ўладальнік Валожына – Манівід

Валожын і Крэва (язычніцкая сталіца Літвы) знаходзяцца побач. Першым уладальнікам Валожына ад 1407 года быў літоўскі баярын Манівід, у хрышчэнні Войцех Альберт Кайлікіновіч. Яго ўнук пабудаваў у 1475 годзе першы хрысціянскі храм – касцёл. Пра літоўскае насельніцтва Валожына ў 16 стагоддзі сведчыць і тое, што віленскі біскуп Войцех Табар (сам прадстаўнік літоўскага шляхецкага роду) у 1507 годзе прасіў пашукаць і накіраваць у 28 парафій ВКЛ святароў, якія валодаюць літоўскай мовай. У гэтым спісе былі названыя Валожын, Маладзечна, Радашкавічы. Аднак аб гэтым матэрыяле я хацеў бы спыніцца на яўрэйскай старонцы гісторыі Валожына.

Першы раз Валожын быў разрабаваны і спалены ў 1519 годзе войскамі Вялікага князя маскоўскага Васілія III Іванавіча падчас вайны 1512 – 1522 гадоў. Наступны раз – у 1535-м, падчас Старадубскай вайны ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага.

### Эпідэмія антысемітызму

У другой палове 14 стагоддзя па ўсёй Еўропе прайшла не толькі эпідэмія чумы, але і эпідэмія страшнага антысемітызму. Яўрэяў бязлітасна рэзалі, палілі, тапілі. У 14-15 стагоддзях, асабліва ў канцы 15 і пачатку 16-га, эміграцыя яўрэяў з нямецкіх гарадоў у Польшчу, Літву і Беларусь была сапраўды масавай. Сюды эмігравалі не толькі заможныя яўрэі, але і сярэдняя і бедная яўрэйская маса. У ВКЛ ашкеназы (ад Ашкеназ – Германія) стварылі асобую этнаграфічную групу сярод яўрэяў Еўропы – літвакоў. У іх узнік свой паўночна-ўсходні дыялект мовы ідыш, свае асобныя рысы быту, традыцыі.

Буйныя землеўладальнікі заступаліся за яўрэяў, якія з 16 стагоддзя сяліліся ў іх маёнтках. Ад 1567 года Валожын – уласнасць канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Рудога. Менавіта пры ім у Валожыне селяцца першыя яўрэі.

### Супольная форма самакіравання яўрэяў – кагал

Першыя пахаванні на яўрэйскіх могілках у Валожыне адносяцца да сярэдзіны 16 стагоддзя. Да гэтага перыяду ў яўрэяў афармляецца свая супольная форма самакіравання – кагал, і гэта канчаткова ізалявала яўрэяў ад карэннага насельніцтва. Кагалы адказвалі за збор падаткаў з усёй суполкі і выконвалі адміністрацыйныя функцыі. Першай і вышэйшай службовай асобай кагалу і яго духоўным кіраўніком з'яўляўся рабін.

**Ад 1551 года Валожын атрымоўвае статус мястэчка ў Віленскім павеце Віленскага ваяводства. Пасля адміністратыўнай рэформы 1565 – 1566 гадоў Валожын адносіцца да Ашмянскага павета Віленскага ваяводства.**

Мястэчка – гэта паселішча паўгарадскога тыпу з перавагай яўрэйскага насельніцтва. У яўрэйскім ужытку паняцце "мястэчка" таксама падразумявала своеасаблівасць быту яўрэйства, яго рэлігійна-культурную адасобленасць і духоўна-сацыяльную аўтаномію суполкі. Маленькія мястэчкі называлі памяншальна штэтэле. Валожын і ёсць штэтэле, ці штэтл.

У другой палове 16 – першай палове 17 стагоддзя ў Рэчы Паспалітай разгарнулася антысеміцкая кампанія. У шмат якіх гарадах прайшлі яўрэйскія праграмы. Яны адзначалі канец "залатога веку" літоўскага яўрэйства.

Незлічоныя бедствы валожынскім яўрэям прынеслі маскоўскія войскі ваяводы Я.Чарказскага ў 1655 годзе падчас бязлітаснай вайны 1654 – 1667 гадоў паміж Масквой і Рэччу Паспалітай.

У другой палове 16 стагоддзя ў Валожыне раз на тыдзень праходзілі кірмашы па продажы сельскагаспадарчых і рамесніцкіх тавараў.

**У пачатку 17 стагоддзя мястэчка Валожын – гэта рыначная плошча і тры вуліцы, якія ішлі ад яе – Віленская, Смаргонская, Менская. У 1690 годзе мястэчка налічвала 83 двары.**

У канцы 17 – пачатку 18 стагоддзя – цэнтр староства. У чарговы раз Валожын разрабаваны і спалены шведскімі войскамі Карла XII у 1708 годзе. Але ён зноў паўстае з попелу. Ужо ў наступным дзесяцігоддзі ў Валожыне 107 двароў, 5 вуліц – Віленская, Смаргонская, Менская, Крывая, Тыльная.

Ад 1738 года Валожын – уласнасць Чартарыйскіх. Па дадзеных інвентару 1740 года, у Валожыне 139 двароў, з іх яўрэйскіх – 36 (26 працэнтаў). Некаторыя з валожынскіх яўрэяў займаліся сельскай гаспадаркай. Напрыклад, Шмуйло Якубовіч Дубінскі меў у карыстанні 5 моргаў сенакосных і 4 моргі аромных, г.зн. пашы. На ўсе 36 яўрэйскіх дамоў ў мястэчку прыходзілася каля 14 моргаў аромных і каля 16 моргаў сенакосных. Аднак галоўнымі спосабамі зараблення сродкаў у валожынскіх яўрэяў былі гандаль і рамяство. Сярод яўрэяў былі краўцы, гарбары, кавалі, шаўцы, майстры па апрацоўцы бронзы, фарбавальшчыкі, цесляры, шапачнікі, рымары, мылавары, цырульнікі, бляхары і іншыя.

Згодна з перапісам 1766 года, у Валожыне ў кагале былі 383 яўрэі. У 1772 годзе ў Валожыне ўжо 174 двары. З іх яўрэскіх – 44 (25,3 працэнта). У 1790 годзе ў мястэчку ўжо 186 двароў.

Ад 1795 года тэрыторыя Валожына ўжо ў складзе Расійскай імперыі. Узнікае "рыса пастаяннай яўрэйскай аседласці", якая ўстанавіла рэзкую мяжу паміж яўрэямі і іншым насельніцтвам. У межах гэтай рысы дазвалялася пастаянна жыць яўрэям толькі ў мястэчках і гарадах, але не ў сельскай мясцовасці. Новае заканадаўства ўзмацніла дэнацыяналізацыю беларускіх мястэчак і гарадоў. Яно прывяло да іх перанасялення яўрэйскай беднатой.

### "Залаты век" валожынскіх яўрэяў

У 1803 годзе ў Валожыне жыло 2446 чалавек. У гэтым годзе ўласнікам Валожына становіцца граф Іосіф Тышкевіч. Менавіта першая палова 19 стагоддзя дзякуючы яму становіцца "залатым векам" валожынскіх яўрэяў. Пры ім у 1809 годзе граф заключыў з валожынскім кагалам дамову, якая гарантавала ім некаторыя правы і ўстанаўлівала прымальныя памеры падаткаў.

У інтарэсах яўрэяў сяляне мястэчка абавязаныя былі прадаваць свае тавары і купляць усё неабходнае толькі ў самым мястэчку. Вельмі выгаднымі для яўрэяў былі наступныя палажэнні дагавора: "...усе пляцы (зямельныя ўчасткі), якімі валодалі яўрэі, а таксама дамы, саладоўні, вінакурні, лаўкі, якія на іх знаходзіліся, адным словам, усялякага роду будыніны, як існуючыя, так і тыя, якія маглі пабудавацца, павінны лічыцца поўнай уласнасцю яўрэяў і іх нашчадкаў. За гэта яны абавязаныя плаціць штогод чынш (грашовы падатак)". Ад чыншу вызваляліся месцы, якія займалі сінагога, іешыва, шпіталь, лазні, могілкі.



Фота забяспечана Уладзімірам ПУЧКОВЫМ.

Двухэтажны мураваны дом на Гандлёвай плошчы Валожына належаў Хаіму Валожынеру, заснавальніку Валожынскай йешывы. Пабудаваны графам Іосіфам Тышкевічам у пачатку 19 стагоддзя. Здымак 1930-х гадоў. Будынак не захаваўся. Сёння на гэтым месцы размешчаны будынак раённай бібліятэкі.

**Уладзімір ПУЧКОЎ,**
**навуковы супрацоўнік Валожынскага раённага краязнаўчага музея.**

● КАЛЯНДАР

15 ЛІПЕНЯ
**90 гадоў** з дня нараджэння (1926) Яна Садоўскага, навукоўца, скарыназнаўца, дзеяча эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Канадзе.

16 ЛІПЕНЯ
**40 гадоў** назад (1976) у Нью-Ёрку памёр Янка Станкевіч, грамадска-культурны дзеяч, мовазнавец, гісторык, перакладчык, выдавец, публіцыст, педагог, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША.

18 ЛІПЕНЯ
**110 гадоў** з дня нараджэння Алены Радзялоўскай (1904 – 1971), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі.

20 ЛІПЕНЯ
**200 гадоў** назад у фальварку Мар'ямпаль Вілейскага павета Віленскай губерні, цяпер Вілейскі раён, нарадзіўся Эдвард Вітольд Жалігоўскі (псеўданім Антоні Сова, 1816-1864), паэт-дэмакрат, філосаф, рэвалюцыйны дзеяч, прымаў удзел у падрыхтоўцы паўстання 1830-х, быў інтэрніраваны. 175 гадоў назад ён напісаў свае першыя вершы "З літоўскіх мелодый" і "Туга". 170 гадоў назад выдаў вершаваную драму "Іардан" – адна з лепшых работ, якая зрабіла вялікае ўражанне на моладзь, а яго выказванні часта прыводзіліся ў іншых творах. Яго імем названая вуліца ў Вілейцы. Памёр 28 снежня 1864 года ў Швейцарыі, у Жэневе.

***

**180 гадоў** назад нарадзіўся Пётр-Уладзіслаў Брант (1836, вёска Рудакі Вішнеўскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні – 1912), удзельнік паўстання 1863-1864 гадоў на Беларусі, у Літве і Польшчы. Вучыўся ў Маладзечне, скончыў там павятовае вучылішча, штабс-капітан рускай арміі, з канца 1863 года – у эміграцыі (Парыж, Галіцыя), у 1903 годзе напісаў кнігу ўспамінаў пра свой час.

**1821 год.** 195 гадоў назад у мястэчку Радашкавічы нарадзіўся Юльян Гарайн, пісьменнік, падарожнік. Скончыў Мінскую гімназію, вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. У 1840–1850-я гады жыў у Мінску, сябраваў з Вінцэнтам Дунінам-Марцінкевічам. У 1870-я гады жыў у ЗША, блізка сябраваў з вядомым пісьменнікам лаўрэатам Нобелеўскай прэміі Генрыкам Сянкевічам і працягваў літаратурную дзейнасць. Аўтар кнігі прозы "Страчаныя хвіліны", успамінаў пра Уладзіслава Сыракомлю "З жыцця паэта" (там аўтар падрабязна апісаў знаходжанне паэта ў тагачасным Мінску). Памёр у 1883 годзе.

**1976** год. Быў створаны народны драматычны тэатр у Маладзечне.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**






Вінцэнт Станкевіч.

Від моста са шлюзамі на рацэ Нарачанка ў Ганунце.

Здымкі з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

# Альбом Вінцэнта Станкевіча раскажа пра малавядомыя старонкі біяграфіі Янкі Купалы

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Гады Першай сусветнай вайны – малавядомая старонка ў біяграфіі Янкі Купалы. Каштоўнай крыніцай звестак пра гэты час з'яўляюцца ўспаміны і альбом фотаздымкаў сябра паэта Вінцэнта Станкевіча (1886 – 1980), якія захоўваюцца ў фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.**

Знаёмства Вінцэнта Станкевіча з Янкам Купалам адбылося ў 1905 годзе ў маёнтку Яхімоўшчына і перарасло ў трывалае сяброўства ў фальварку Акопы, дзе малады інжынер, спецыяліст па сілікатнай прамысловасці, сустрэў ужо знакамітага паэта, рэдактара "Нашай Нівы". У гэтай чароўнай мясціне, званай "беларускай Швейцарыяй", ён стаў сведкам росквіту купалавага таленту, магчыма, адным з першых чытачоў створаных тут цудоўных рамантычных паэм "Бандароўна", "Яна і я", "Магіла льва" і камедыі "Паўлінка".

З набліжэннем фронту да Вільні ў жніўні 1915 года Янка Купала як рэдактар "Нашай Нівы" прымае цяжкае рашэнне – закрывае газету і выязджае ў эвакуацыю. Светлай падзеяй асабістага жыцця паэта, стагоддзе якой адзначаецца сёлета, стала яго вянчанне 23 студзеня 1916 года ў касцёле святых Пятра і Паўла ў Маскве з **Уладзіславай Станкевіч**, даўняй знаёмай, прафесійным педагогам, аўтарам вершаў для дзяцей. Жонка стала вернай спадарожніцай паэта, пасля трагічнай гібелі мужа – збіральніцай яго творчай спадчыны, рассеянай па свеце ўжо ў час Другой сусветнай вайны, стваральнікам і першым дырэктарам музея Янкі Купалы.

### Вінцэнт Станкевіч і Янка Купала служылі разам

У 1916 годзе Янку Купалу прызвалі ў войска. Вінцэнт Станкевіч служыў афіцэрам у 16-м ваенна-дарожным атрадзе Другой арміі Паўночна-Заходняга фронту. Цудоўна ўсведамляючы значэнне паэта для Беларусі, ён паспрыяў накіраванню свайго сябра і сваяка ў гэтую часць. Поспех яго хадайніцтву забяспечылі, верагодна, і ведамасць паэта ў коле ваеннага кіраўніцтва.

На карысць гэтага сведчыць выпадак у чакальні першага класа Віленскага вакзала ў Мінску ў 1917 годзе, пра які ведаем з успамінаў Вінцэнта Станкевіча і яго сястры. Калі камендант станцыі падпалкоўнік **Мясаедаў** хацеў загадаць Купалу пакінуць залу, бо як падпрапаршчык не мае права тут знаходзіцца, генерал **Васілій Гурка**, звяртаючыся да Мясаедава, даслоўна сказаў: "Я разрешил господину Янку Купале пребывать в этом зале, вы не знаете кто это такой! Это же известный ценимый белорусский поэт Янка Купала, несравненно более ценный человек, нежели ни одна держиморда, хотя бы и в мундире подполковника", і папрасіў прабачэння ва **Уладзіславы Луцэвіч**, якая праводзіла мужа і брата.

Вінцэнт Станкевіч і Янка Купала служылі разам і тое, што яны абодва бачылі на беларускіх землях, праз якія прайшлі франты Першай сусветнай вайны, мы можам убачыць на старонках унікальнага альбома фотаздымкаў, зробленых Вінцэнтам Станкевічам.

Альбом змяшчае 57 чорна-белых здымкаў, адзін з якіх аздабляе яго вокладку. Сярод іншых ёсць здымкі з такімі подпісамі:

"Видъ моста со шлюзами на р.к. Нарочь въ д. Ганута

Мост въ дер. Осиповичи во время весеннего разлива

Выемка на дороге оз. Нарочь – Брусы

Видъ разрушенной церкви германскимъ снарядомъ при д. Коссута

Мостъ и дамба на уч. Вилейка – Сосенка

Мостъ и дамба на дорогѣ Илья – Вязынь"

Ёсць надпіс чарнілам у дзевяць радкоў, зроблены рукой В. Станкевіча: "В годах I Мировой войны в военно-дорожном отряде Янка Купала принимал участие в постройке мостов на реках Белоруссии в 1916–1918 годах, снимки делал начальник 16 отряда инженер В.Ф. Станкевич".

### Здымкі можна пабачыць у музеі

Часткова алічбаваныя фотаздымкі з альбома Вінцэнта Станкевіча прадстаўленыя ўвазе наведнікаў стацыянарнай экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў мультымедыйным раздзеле, прысвечаным жыццю і творчасці паэта ў час Першай сусветнай вайны.

Адзінаццаць алічбаваных здымкаў з альбома ўвайшлі ў перасоўную выставу "Я – шлях, якому век няма спакою" (Жыццё і творчасць Янкі Купалы ў гады Першай сусветнай вайны). Яна экспанавалася на пляцоўках Беларусі, Літвы, Расіі. Паўсюль альбом Вінцэнта Станкевіча выклікаў вялікую цікавасць наведнікаў, навукоўцаў, краязнаўцаў і, найбольш, – жыхароў адлюстраваных на здымках мясцін. Таму факсімільнае выданне альбома Вінцэнта Станкевіча як каштоўнага сведчання рэчаіснасці на Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны ёсць у планах музея, як і спадзяванне, што гэтая ініцыятыва будзе падтрыманая.

**Марыя БАРТКОВА,**
**дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы.**

# Што горш: камары ці сродкі ад іх?

**Пра тое, што лета ў самым разгары, нам нагадваюць не толькі гарачае сонца і выезды на дачу, але і навязлівы піск ці гудзенне над вухам. Лета – час камароў, мух, мошак і іншых кузурак, здольных сапсаваць адпачынак на прыродзе.**


Фота babycenter.com.

Замест сродкаў у выглядзе аэразоляў лепш аддаць перавагу спрэям.

Змагацца з імі нам найчасцей прапаноўваюць пры дапамозе розных "пшыкалак" ды мазяў, пах якіх непрыемны і для саміх карыстальнікаў. Дык ці праўда, што пырскаючы на сябе з балончыка, мы дапамагаем сабе, а не робім горш?

### Як разабрацца ў складзе сродкаў?

Усе прэпараты, якімі карыстаюцца для адпуджвання насякомых, называюцца рэпелентамі. Набыць іх можна ў рознай форме – мазі, спрэі, вадкасці ці таблеткі. Разабрацца ў іх нам дапамагае **Дар'я Чумакова**, каардынатар праграмы па экалагічна сяброўскім ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

– У першую чаргу варта звярнуць увагу на склад вашага сродку, – кажа эксперт. – І ўвогуле вельмі ўважліва прачытаць інструкцыю.

**ДЭТА** – рэчыва, якое таксама можа хавацца за словам "дыэтылтолуамід". Яно лічыцца бяспечным для здароўя, але добра адганяе непажаданых кузурак. Адзіны момант – пры трапленні ў вочы выклікае раздражненне слізістай.

Спецыялісты адзначаюць: не варта набываць сродак, у складзе якога ДЭТЫ больш за 30%. Для эфектыўнасці хопіць 20%. Да таго ж лепей не пшыкаць такім сродкам на сінтэтычныя тканіны і пластык – ДЭТА можа раствараць гэтыя матэрыялы.

**IR3535** – хімічнае рэчыва, вельмі падобнае да ДЭТЫ. Яго таксама варта трымаць далей ад вачэй і не распыляць на пластык і сінтэтыку.

**Перметрын** – сродкі, у складзе якіх ёсць гэтае рэчыва, можна выкарыстоўваць толькі ў крытычных сітуацыях, паколькі перметрын таксічны для чалавека. Яго ні ў якім разе нельга наносіць на скуру, толькі на рэчы – палатку, верхняе адзенне, сеткі. Такія рэпеленты трэба выкарыстоўваць на адкрытай прасторы, каб не перавысіць іх канцэнтрацыю ў паветры.

Ратавацца ад насякомых можна і без хіміі. Існуюць прэпараты, зробленыя на аснове раслінных экстрактаў і эфірных алеяў – кедра, лаванды, сасны, базіліка і іншых.

– Такія рэпеленты трэба наносіць часцей, кожныя 30-40 хвілін, – падкрэслівае Дар'я Чумакова. – Але некаторыя эфірныя алеі могуць выклікаць алергію, таму спачатку лепей правесці алергатэст на невялікім участку скуры.

### Не забывайцеся змываць хімію!

Тое, што любы рэпелент трэба змываць, пазначаюць ледзь не ўсе вытворцы адмысловых сродкаў. Але часта ў клопатах мы не надаём гэтаму значэння.

– Трэба абавязкова прыняць душ і вымыць адзенне, – зазначае Дар'я Чумакова. – Чым на большы час мы пакідаем сродак на сабе, тым большая верагоднасць, што ён трапіць унутр. ДЭТА ці IR3535 не выпараецца, а застаецца на скуры. Калі мы наносім яго раз на тыдзень, то сітуацыя некрытычная. Калі ж у адпачынку мы карыстаемся ім штодзённа, то канцэнтрацыя расце, і сродак перастае быць бяспечным.

Эксперт падкрэслівае, што важна адрозніваць абарону ад камароў і абарону ад кляшчоў.

– У Беларусі камары не пераносяць смяротна небяспечных захворванняў, – кажа спецыяліст. – Таму змагаюцца з імі толькі для ўласнага камфорту. Кляшчы ж нашмат больш небяспечныя і абараняцца ад іх трэба абавязкова. Не толькі апранаючы шчыльна закрытае адзенне і галаўны ўбор, але і пры дапамозе рэпелентаў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

**Апытанне на гэту тэму чытайце на 24-й старонцы.**

### Парады эколага ў выбары рэпелентаў

1. Не карыстайцеся рэпелентам часцей, чым гэта дазваляе інструкцыя на ўпакоўцы. Больш – не значыць эфектыўней.
2. Не спадзявайцеся толькі на рэпеленты, яны не даюць стопрацэнтнай гарантыі, што вас не ўкусяць. Выязджаючы на прыроду, не забывайцеся на адпаведнае адзенне.
3. Не выкарыстоўвайце рэпеленты для дзяцей да шасці месяцаў.
4. Карыстайцеся сеткамі для дзіцячых вазкоў.
5. Наносячы сродак на дзіця, спачатку выцісніце яго на свае рукі і толькі потым мажце скуру дзіцяці. Не наносьце сродак на далоні – дзіця можа іх аблізваць.
6. Аддавайце перавагу спрэям, а не аэразолям. Спрэй наносіць сродак звычайнымі кроплямі, не павышаючы яго канцэнтрацыі. У форме спрэя прадаецца, да прыкладу, сродак для мыцця вокнаў. Аэразоль у сваю чаргу прадаецца ў металічнай тары, ён распырсквае сродак пад ціскам, што павышае канцэнтрацыю хімічных рэчываў. Да таго ж ён распыляе больш дробныя часцінкі, якія марудна асядаюць, таму мы ўдыхаем іх яшчэ праціглы час.
7. Не выкарыстоўвайце рэпеленты ў выглядзе вадкасцяў і таблетак, што ў адмысловай прыладзе ўключаюцца ў разетку. У іх дзеючым сродкам з'яўляецца метафлутрын – ён больш таксічны і менш эфектыўны, чым іншыя рэчывы.
8. Адмоўцеся ад рэпелентаў у выглядзе свечак і спіраляў. Яны мала эфектыўныя і пры гарэнні выдзяляюць пары, якія могуць выклікаць цяжкасці з дыханнем.
9. Не карыстайцеся крэмам ад сонца з функцыяй рэпеленту.

## Хвороба на рак 28-гадовага Ігара Цімошкі не стала, калі ён прыехаў на лячэнне ў Германію

МАЛАДЗЕЧНА

**На старонцы блізкія разам перажываюць страту, падтрымліваюць адзін аднаго і дзеляцца прыемнымі ўспамінамі пра чалавека, які застаецца для іх дарагім.**

Знаёмыя і сваякі Ігара пішуць пра тое, як пазнаёміліся з ім, дзеляцца фотаздымкамі і не застаюцца са сваім болем сам-насам.

Старонку памяці Ігару Цімошку стварылі ў сацыяльнай сетцы "Вконтакте".

Ігар Цімошка скончыў маладзечанскую гімназію №7, БДУІР. Працаваў праграмістам. Некалькі год сустракаўся з каханай дзяўчынай Настассяй Дарафей.

У 24 гады яму дыягнаставалі рак скуры. Сваякі прадалі маёмасць, каб сабраць на лячэнне, а калі не было чаго ўжо прадаваць, звярнуліся па дапамогу.

Гісторыя Ігара кранула многія сэрцы, шмат хто далучыўся па магчымасці, каб пералічыць грошы на яго лячэнне. На нашым сайце rh.by у чэрвені артыкул пра тое, што па дапамогу звярнулася мама Ігара Жанна, стаў самым чытаным.

Яму некалькі тыдняў таму ўжо палепшала, ён пачаў рухацца пасля некаторага часу паралізаванасці. На мінулым тыдні паехаў на лячэнне ў Германію.

8 ліпеня яго не стала.

Ігара прыгадваюць як надзвычай разумнага і таленавітага маладога чалавека. Ён быў пазітыўны і адкрыты, шчыры і гатовы дапамагчы. Любіў Беларусь.

Сваякі дзякуюць усім, хто спрабаваў выратаваць Ігара.

З прычыны страты Настасся напісала на сваёй старонцы: "Учора, 8 ліпеня, маё жыццё замерла і спынілася, як і навошта цяпер жыць – я не ведаю... Майго самага лепшага і каханага Ігара не стала, майго самага харошага, добрага, любячага, маёй палавіначкі... Усе ведаюць, што я так пішу не таму, што яго не стала, ён такі быў на самой справе.

**Не хопіць ніякіх слоў, каб апісаць, што я зараз адчуваю. Ён абсалютна правіцца. Мы так стараліся і спадзяваліся, але не змаглі.**

Мы цяпер у Германіі, прыехалі на лячэнне, але не паспелі нічога зрабіць. Адзінае – ён тут не пакутаваў, як гэта магло быць у Беларусі, дактары яму дапамаглі тут, абязбалілі. У гэты момант я была з ім".

Рэдакцыя шчыра спачувае родным і блізкім Ігара.

**Аддзел інфармацыі.**



Калектыў "Рэгіянальнай газеты" смуткуе з прычыны заўчаснай смерці сябра і партнёра **Віктара Вейса** і выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім памерлага.

НАВІНЫ

## Маладзечна-ДЮСШ-4 перамагло магілёўскае "Тарпеда" – 5:1

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 9 ліпеня, на гарадскім стадыёне каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" выйграла з разгромным лікам у гасцей з Магілёва –5:1.**

Гэта перамога ў падначаленых **Аляксандра Гармазы** стала трэцяй запар, пасля яе маладзечанцы замацаваліся на шостай прыступцы турнірнай табліцы.

У матчы супраць "Тарпеда" галы забівалі **Сяргей Лавор** (27 хвіліна), **Юры Пустаход** (33 хвіліна), **Сяргей Космач** забіў трэці гол у дадатковы час першага тайма (46+), на 66 хвіліне забіў **Ігар ТальКоўскі**, фінальную кропку паставіў **Ігар Нарожнік** (73 хвіліна).

Адзіны гол удалося адквітаць на 65 хвіліне **Васілю Антоненку.**

Трэнер каманды Віталь Казяк патлумачыў у інтэрв'ю:

– У першым тайме каманда паказала вельмі прыстойны футбол (лепшы тайм у чэмпіянаце), забіла тры галы і не рэалізавала яшчэ некалькі добрых момантаў. Гэта стала магчымым па вельмі простай прычыне – можа, упершыню ў чэмпіянаце быў сабраны баявы склад. У перапынку палічылі, што гульня зробленая і, відаць, расслабіліся. Сапернік перахапіў ініцыятыву, забіў нам гол. Добра, што ўдалося літаральна праз хвіліну забіць чацверты гол і аднавіць розніцу ў ліку. Сапернік зразумеў, што адыграцца ў матчы не атрымаецца, і супакоіўся.

Сёння быў наш дзень. За кошт прэсінгу прымусілі саперніка памыляцца. Радуе, што галы забілі пяць розных гульцоў.

Бліжэйшую гульню маладзечанцы згуляюць на выездзе супраць каманды з Жыткавічаў, а наступная дамашняя гульня адбудзецца 23 ліпеня. Сапернікамі маладзечанцаў стане Рагачоў.

**Наталля ТУР.**



Фота Ігара ЦЫГАНКОВА.

Падчас гульні "Смаргоні" з "Гранітам".

## "Смаргонь" згуляе ў 1/8 фіналу Кубка Беларусі

СМАРГОНЬ

У матчы 1/16 фіналу Кубка Беларусі "Смаргонь" перамагла каманду "Граніт" з вышэйшай лігі з Мікашэвіч 3:0. Матч адбыўся 9 ліпеня ў Смаргоні.

У першым тайме ў смаргонцаў адзначыўся **Віталь Ганіч**. У другім адразу ў вароты "Граніта" ўляцеў аўтагол, а на 77-й хвіліне гол забіў **Сяргей Крот**.

У "Граніта" цяпер цяжкі фінансавы стан, і ў Смаргонь каманда прыехала толькі з двума запаснымі: варатаром і паўабаронцам.

**Аддзел інфармацыі.**

## Змагаюцца ў дваровай лізе

МЯДЗЕЛ

Пачаўся другі чэмпіянат дваровай лігі Мядзельскага раёна. Як і летась, у ёй удзельнічаюць чатыры футбольныя каманды.

У першым матчы 2 ліпеня ФК "Сваткі" дома адолелі "Юніён Нарач" 2:0.

Гэтыя ж каманды сустрэліся 9 ліпеня. У сябе дома нарачанцы былі мацнейшыя за сваткаўскіх гульцоў. Лік сустрэчы 3:1, расказаў капітан ФК "Юніён Нарач" **Аляксей Раброў.**

**Аддзел інфармацыі.**




Уладзіслаў Фядотаў (пад нумарам 16) выйшаў на поле на апошніх хвілінах матча. Фота Наталлі ТУР.

# Вера ў цуд, што пераможа "Іслач", жыла да апошняй хвіліны

МАЛАДЗЕЧНА

**7 ліпеня на гарадскім стадыёне адбылася гульня паміж "Іслаччу" і БАТЭ.**

Нягледзячы на няўстойлівае надвор'е, заўзятараў было, бадай, больш, чым на ўсіх астатніх матчах.

А паглядзець было на што.

Ужо на першых хвілінах штрафны ўдар у вароты БАТЭ закончыўся забітым мячом. "Іслач" павяла ў ліку!

Яшчэ праз пару хвілін, здавалася, другі мяч апынецца ў варотах барысаўчан. Пазней, на прэс-канферэнцыі, трэнер "Іслачы" **Віталь Жукоўскі** прызнаецца, што ён ужо бачыў мяч у чужых варотах:

– Лік 2:0 быў бы прыстойным зазорам: можна было б згуляць па-іншаму, сесці ніжэй. Але мы хацелі прэсінгаваць саперніка высока, каб гледачы атрымалі задавальненне ад футбола, і хацелася гуляць больш у атаку, без сарамлівасці.

На 13 хвіліне **Аляксандр Валадзько** зрабіў лік роўным – 1:1.

Потым недарэчны другі гол на апошніх хвілінах першага тайма, і ўжо ў расчараванні падначаленыя Жукоўскага сыходзілі на перапынак.

Хаця, па словах таго ж Віталя Жукоўскага, "мне сёння не спадабалася, што футбалісты ў расчараванні былі задаволеныя, маўляў, згулялі з БАТЭ 1:3. Мне здаецца, што заўсёды трэба старацца перамагчы".

Другі тайм – лік становіцца 1:3. І застаецца нязменным да канца сустрэчы. І тут становіцца зразумела, што цуд пабачыць гледачам не ўдасца.

Затое на апошніх хвілінах матча на стадыён выйшаў малады гулец з Маладзечна – **Уладзіслаў Фядотаў.**

**– Не пабаяліся выпускаць Фядотава адразу супраць БАТЭ?**

– Я яму вельмі хацеў сёння даць згуляць. Лічыце, гэта дала пра сябе ведаць траўма майго юнацтва. Гэта быў 2002 год. Я гуляў за дублюючы склад БАТЭ. Клуб прайграў Гомелю і Бабруйску. І **Юры Іосіфавіч Пунтус** мне сказаў, што я дэбютую на маладзечанскім стадыёне, мяне нават хлопцы ўжо павіншавалі. Я ўсёй радні, сябрам сказаў, што буду гуляць у асноўным складзе. Але потым нешта змянілася, і ў выніку я так і не згуляў у вышэйшай лізе.

> Мне хацелася зрабіць нейкі рэверанс і даць маладому чалавеку згуляць, каб не атрымалася ў жыцці так, як у мяне.

Напэўна, **Сашу Алумону** менш сустракалі заўзятары, чым Улада Фядотава. І гэта правільна! Заўзятары заслужылі, каб іх маладыя, перспектыўныя футбаліст выйшаў на поле. Вядома, ёсць хлопцы і мацнейшыя на дадзеным этапе, але я лічу, што тры-чатыры хвіліны трэба даць для досведу, бо гэта наша будучыня, і мы павінны на іх абапірацца. Каманда ў нас дасведчаная, нават залішне, і патрэбныя маладыя хлопцы.

**– Ці значыць гэта, што Улада будзеце выпускаць гуляць і ў далейшым, ці гэта быў крок толькі для заўзятараў?**

– Дык мы яго ўжо ў БАТЭ прадалі – **Анатоль Анатольевіч** (Капскі – дырэктар БАТЭ) пасля гульні падыходзіў (смяецца). Вы зразумейце, што ўсё залежыць ад Улада. Запрашаю вас паглядзець на наш трэніравальны працэс. Сёння я даў яму гульнявы час, каб парадаваць заўзятараў. Але гэта ж не значыць, што я павінны рабіць так увесь час. Прыходзьце! Калі ён будзе мацнейшы за іншых, а я не пастаўлю, то можаце мне сказаць: "Коўч, а што гэта ты маладым не даяраеш?"

Сам Уладзіслаў у захапленні ад таго, што некалькі хвілін згуляў на родным стадыёне, перад сваімі заўзятарамі, у матчы супраць чэмпіёнаў.

– Вядома, усе сваякі былі на стадыёне. Гэта было неверагодна! Выйсці на поле на родным стадыёне, перад роднымі трыбунамі... Гэта не проста неверагодна, гэта адказна і ўрачыста. Ну, а наконт таго, што я гуляю супраць БАТЭ, адразу пра гэта не асабліва думаў, проста хацелася выйсці і дапамагчы камандзе.

Уладзіслаў прызнаўся, што і да гульні з БАТЭ рабіў усё, каб выступаць у асноўным складзе каманды:

> – А цяпер я гатовы са скуры вон вылезці, каб пераканаць і сябе, і трэнера, што я магу гуляць у аснове.

**– А як Віталь Жукоўскі адрэагаваў на твой дэбют?**

– Пасля гульні павіншаваў. І ўсё.

Гульнёй супраць БАТЭ "Іслач" закончыла першы круг чэмпіянату. На пытанне, ці задаволены галоўны трэнер гульнёй сваёй каманды ў першым крузе, Віталь Жукоўскі адказаў:

– Заўсёды хочацца большага. Я ўжо казаў, што трэнер – як наркаман, што ні дай – усё хочацца больш, больш, больш. І гэта нармальна.

Наступны раз "Іслач" згуляе на гарадскім стадыёне 6 жніўня. Пасля амаль месячнага перапынку ў госці да "Іслачы" едзе футбольны клуб "Граніт" з Мікашэвічаў.

**Наталля ТУР.**




# “Так люблю кабачкі, што ела б іх і ела...”

**Так напісала ў сваім паведамленні Тамара Трапашка з Мядзельшчыны і даслала нам два рэцэпты. Цяпер і вы прыгатуйце стравы і палюбіце кабачкі.**



### Рулецікі з кабачкоў

*2 маладыя кабачкі (ці цукіні), 1 філе курынай грудкі, 2 зубкі часнаку, 50 г цвёрдага сыру, гатовы соус з папрыкі, не востры), некалькі лісцікаў базіліку, соль і перац – на смак, алiўкавы алей.*

Кабачкі вымыйце і нарэжце палоскамі прыкладна па 0,5 см. Бляху высцеліце паперай для выпечкі, раскладзіце кабачкі, трохі змажце алеем і пасаліце. Пастаўце ў разагрэтую да 180 градусаў духоўку на 5-7 хвілін, каб кабачкі памякчэлі і лепш скручваліся. Курынае філе нарэжце тонкімі палоскамі ўздоўж, трохі адбіце, пасаліце і паперчыце. Дадайце часнок, перамяшайце і пакіньце трохі прамарынавацца.

На падрыхтаваныя кабачкі выкладзіце палоскі курынага мяса, прысыпце сырам, базілікам, дадайце трохі соусу. Скруціце рулецікамі, скаліце зубачысткамі і запячыце пры 180 градусаў 25 хвілін.

### Курыныя катлеткі з кабачком і рысам

*500 г курынага філе, 200 г кабачкоў, 100 г рысу, 1 морквіна, 1 цыбуліна, 1 яйка, 1 пучок зеляніны, соль, чорны перац і пшанічная мука – на смак.*

Курынае філе, моркву і цыбуліну прапусціце праз мясарубку. Кабачок надзярыце на буйной тарцы, затым злёгку адціснiце сок.

Перамяшайце кабачок і фарш, дадайце папярэдне адвараны рыс. Дробна паражце зеляніну, дадайце ў агульную масу. Туды ж дадайце 1 яйка, пасаліце і паперчыце.

Добра вымесіце фарш, сфармуйце курыныя катлеткі, укачайце іх у муку. Абсмажце катлеткі на невялікай колькасці алею.

**Проста МАРЫЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 2 | | 6 | | | | |
| | 9 | | 1 | | | | | 5 |
| 3 | | | | | 8 | 1 | 9 | |
| 4 | 1 | | | | 9 | | 8 | |
| | | 8 | | | | 5 | | |
| | 5 | | 4 | | | | 1 | 9 |
| | 2 | 4 | 6 | | | | | 3 |
| 6 | | | | | 7 | | 5 | |
| | | | | 5 | | 2 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.




Фота www.youtube.com.

Кадр з фільма “Стартрэк: Бясконцасць”.

# “Толькі страх захоўвае нам жыццё”

**Галоўная прэм’ера маладзечанскага і вілейскага кінатэатраў – сямейны мультфільм “Ледніковы перыяд: Сутыкненне непазбежнае”.**

Вы ўжо засумавалі па гісторыі пра шалёную вавёрку, якая ў гонцы за сваім жолудам перайначыла ўсю Зямлю? Стваральнікі карціны гэтым разам распавядаюць пра тое, як вавёрка запусціла з космасу шраг касмічных з’яў. Гэтыя падзеі пагражаюць знаёмаму нам сусвету ледніковага перыяду. І каб выратавацца, знаёмыя героі мусяць адправіцца ў неверагодную вандроўку.

Стваральнікі называюць карціну апошнім фільмам франшызы.

І хаця многія лічаць шэдэўрам менавіта першую частку серыі мультфільмаў, а ўсе наступныя – спробай дасягнуць яе ўзроўню, тым не менш, тут глядач убачыць усё тое, за што палюбіў “Ледніковы перыяд”. Гэта і разнахарактарныя героі, і прыгожая графіка, і невычарпальны гумар. Чым здзівіць пятая частка, дык гэта музычным суправаджэннем. Кампазітар Джон Дэбні напісаў такія саўндтрэкі, што некаторыя крытыкі лічаць іх лепшымі за драматычную частку.

У любым выпадку, гэта гісторыя прыгодаў, на якую варта ісці ўсёй сям’ёй. Сядайце ў крэсла і прымайце порцыі нязмушанага задавальнення.

Маладзечанскі кінатэатр запускае таксама доўгачаканую фантастыку “**Стартрэк: Бясконцасць**”.

Экіпаж зорнага карабля “Энтэрпрайз” атакавала невядомая хваля прышэльцаў. Экіпаж пакідаюць на невядомай планеце.

Там ім наканавана сутыкнуцца з невядомым і магутным ворагам.

Фільм падорыць вам дынаміку, графіку і напор, за якія вы будзеце ўдзячныя стваральнікам.

У карціне нагнятаецца страх, і менавіта гэта пачуццё вы зможаце зразумець глыбей падчас прагляду.

Што нас робіць моцнымі? Як змагацца з моцным ворагам? Што шукаць у сабе пры пагрозе жыццю? Вы можаце знайсці крыніцу для філасофскіх разваг, а можаце проста акунуцца ў фантастычную карцінку нырцом.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы “Рэпертуары” на нашым сайце rh.by.**

Rh.by

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

### Дзяўчаты-двайнікі з Маладзечна: аднолькавыя ад прычосак да гарбінкі на носе

Я так разумею, што не я адзін, хто бачыць, што яны зусім не падобныя. ***Sh@m@n.***

Як мне падаецца, я з сястрой абсалютна розныя па знешнасці. А вось знаёмыя, відаць, бачаць падабенства. Часам да мяне падыходзяць сябры сястры, а да яе мае знаёмыя. Каб хоць неяк выглядаць больш螺 рознымі, зрабілі розныя прычоскі. Яна без грыўкі, я – наадварот. Думалі, выратуе. Не, усё роўна блытаюць. ***Таня.***

### Сцебяракі: вялікая гісторыя маленькай вёскі (шмат фота)

Спадарыня Ірына, вялікі дзякуй за цудоўны артыкул. Скажыце, а ці трапляўся ў паперах аднайменны засценак? Буду ўдзячны за адказ! ***Анатоль.***

### Найбуйнейшы ў Мінскай вобласці падпольны цэх па вытворчасці самагонкі ліквідавалі пад Маладзечнам (Відэа)

Побач свінагадоўчы комплекс соўлаўскі будуецца. Было куды збываць гаручае. ***Хведзя.***

### Хворага на рак скуры 29-гадовага маладзечанца Ігара Цімошкі не стала ўчора, калі ён прыехаў на лячэнне ў Германію

Мы ўсе спадзяваліся на цуд. ***Спачуваю.***

### Жаніхі, не бойцеся падыходзіць да нявесты падчас першага танца. Парады, якія зробяць рэгістрацыю ў ЗАГСе нястрашнай

Я ў гадах выходзіла замуж, і мне таксама ну зусім не спадабалася рэгістрацыя. Для кожнага чалавека гэты дзень – падзея. Таму хочацца, каб усё было пасвяточнаму. Каб і работнікі былі адпаведна апранутыя і прычасаныя, а не ў чорным. Каб на твары была ўсмешка і жарт дарэчы. Не трэба нудным і стомленым голасам гаварыць, што вы цяпер муж і жонка. У сельвыканкамах на вёсцы нашмат цікавей адбываецца рэгістрацыя шлюбу. У іх няма ніякіх абмежаванняў, яны так добра падрыхтаваныя і ўмеюць з вялікім унутраным пранікненнем, хвалююча шчыра гаварыць свае словы, што бярэ за душу. ***Mara.***

## ГАРАСКОП 15-21 ЛІПЕНЯ

**Авен.** Вы спрабуеце ўсе пытанні вырашыць пры дапамозе банальнага лагічнага мыслення. Але, здараецца, лёс патрабуе зусім іншых дзеянняў. Вам трэба навучыцца адпускаць падзеі ў самастойнае плаванне.

**Цялец.** Перыяд прадракае эмацыйнае задавальненне і шчасце ў сямейным жыцці, а магчыма, і паляпшэнне фінансавага стану.

**Блізняты.** Усё, што звязана з афармленнем дакументаў на нерухомасць і іншыя буйныя матэрыяльныя каштоўнасці, прынясе поспех і дазволіць адкрыць новыя перспектывы.

**Рак.** Перыяд спрыяльны, асабліва ў пытаннях, якія тычацца эмацыйнай сферы. Гэта нельга назваць приступамі беспрычыннай радасці, насупраць, вашы эмоцыі прыйдуць ў стабільнае рэчышча, якое будзе мець пад сабой значную аснову.

**Леў.** Спрыяльны час для актыўнай і імклівай дзейнасці. Але вам лепш дазволіць сабе адпачынак, вы і так шмат чаго дабіліся, таму задавальвайцеся тым, што ёсць.

**Дзева.** Вам трэба зрабіць сур’ёзны выбар, прычым выбіраючы адно, неабходна будзе адмовіцца ад другога, што зрабіць не так проста. Вы павінны інтуітыўна зразумець, што трэба. Правільны выбар прынясе гармонію і задавальненне.

**Шалі.** Каб ваша жыццё склалася найлепшым чынам, ніколі не здавайцеся, не апускайце рукі, працуйце над сваім жыццём, сваім целам, развіццём мовы.

**Скарпіён.** Вы адчуеце ўладу ў сваіх руках і пачняце цалкам карыстацца ёю. Не распыляйцеся, пастарайцеся сканцэнтравацца на чымсьці адным, і тады вас чакае поспех.

**Стралец.** Усё ў вашых руках – хоць вы і самі гэта ведаеце, гэта фраза даўно стала дэвізам у вашым жыцці. Гэтыя дні – толькі пацвярджэнне гэтаму.

**Казярог.** У вашым жыцці адбудуцца перамены, настаў час прачнуцца для новага жыцця.

**Вадалей.** Падзеі, якія бударажылі ваша жыццё, – у мінулым. Наступае перыяд спакойнага сузірання, няма радасці і гора, няма і неабходнасці штосьці мяняць. Перад вамі адкрываюцца новыя гарызонты.

**Рыбы.** Няма нічога, што магло б вас вывесці з раўнавагі. Цяпер наступае той перыяд, у які вы можаце памяняць сваю эмацыйнасць на стабільнасць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## ● НАДВОР'Е

**16 ліпеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +21 | | +14 | | +17 | | +17 | |
| | +18 | | +22 | | +26 | | +23 | |
| | 740 | ↗ 5 | 745 | ↙ 4 | 739 | ↙ 9 | 733 | ↙ 7 |
| **Вільня** | +20 | | +13 | | +15 | | +17 | |
| | +16 | | +21 | | +23 | | +22 | |
| | 746 | ↗ 8 | 754 | ↘ 1 | 749 | ↙ 6 | 743 | ↘ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.00
Захад 21.36
Даўжыня дня 16.36

Усход 18.16
Захад 2.22
Квадра 3




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +5,3 °С у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +32,4 °С у 2001 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 23,2 мм у 1990 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Усё пра людзей ды пра людзей. А для тых, хто любіць братоў нашых меншых, – гісторыя жыцця ката Чарныша.



## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



**Здымак фотамастака Юрыя Горыда.**

## ● ГУМАРЭСКІ

### Дзве дамы

*– Гадоў вы колькі*
*далі б мне?*
*– Вам што, сваіх*
*не дастае?*

### Новае кіраўніцтва

*– У нас нядаўна*
*кіраўнік змяніўся.*
*– Ён звольніўся?*
*– Ды не! Жаніўся.*

### Паспяховая жанчына

*Я знаю пра такую:*
*1. Яна як вол працуе.*
*2. Па-мужчынску*
*разважае.*
*3. І як лэдзі выглядае.*

### Дайце перакусіць

*– Перакусіць што-*
*небудзь прапануйце!*
*– А вось – медны*
*дрот паспрабуйце!*
***
*Настаўніца гаворыць*
*Вову:*
*– Твая работа*
*"Мая мама"*
*І сачыненне*
*братава таксама*
*Так супадаюць –*
*слова ў слова!*
*– Дык з ім у нас адна*
*і тая ж мама!*
***
*Эканоміць час*
*заўжды старайся:*
*З пагляду першага*
*ўлюбляйся.*
***
*Не навучыла мама,*
*Навучыць рэклама.*

### Мама і дачушка

*– А што*
*з дзяўчынкамі бывае,*
*Якія кашку не даелі?*
*– Пра гэта, мамачка,*
*я знаю:*
*Іх адбіраюць у мадэлі.*

### Не хачу вучыцца

*– У школу не пайду я*
*ні за што,*
*Там рэжуць на*
*экзаменах, вось што!*

### Вайна

*Вайна ёсць спроба*
*развязаць*
*Сутычкамі паміж*
*вайскамі*
*Той вузел, што*
*сумелі завязаць*
*Палітыкі сваімі*
*языкамі.*

**Пётр ШАКОЛА,**
**Ашмяны.**

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

# Як вы ратуецеся ад камароў і мошак?



**Ірына Кухальская, вярстальшчык электронных кніг, Маладзечна:**
– Я ніколі не набывала нейкіх адмысловых сродкаў. Калі была на пілігрымцы ў Будславе, мяне пакусалі нейкія мошкі, і давялося спіртам прыпальваць месцы ўкусаў. А звычайна калі сядзіш у офісе, то і не бачыш тых насякомых, хіба што матылі на святло лятуць увечары.



**Данута Кучына, супрацоўніца банка, Маладзечна:**
– Мая сям'я ніяк не ратуецца ад насякомых, бо яны нас проста не чапаюць. Пасля таго, як мы пераехалі на чацверты паверх, мы забыліся, што такое мухі і камары. Можа, яны "ядуць" суседзяў з ніжэйшых паверхаў і да нас проста не далятаюць.



**Ілля Якавюк, інжынер, Вілейка:**
– Раней я кожнае лета пшыкаўся рознымі атрутамі. Але чым больш яе на сябе выліваў, тым больш агрэсіўнымі былі насякомыя. І калі я ўрэшце адмовіўся ад хіміі, камары амаль перасталі мяне кусаць. Калі і адбываецца, то настолькі рэдка, што гэта можна і не ўлічваць.



**Яўген Чабатуль, спецыяліст банкаўскай сферы, Маладзечна:**
– Калі адпачываем на дачы, то карыстаемся спіраллю ад насякомых. А ў памяшканні – фумігатарам, што ўключаецца ў разетку. Камароў мы баімся больш, чым "хіміі" ў складзе гэтых сродкаў.



**Максім Сасонка, будаўнік, Маладзечна:**
– У лес я хаджу вельмі рэдка, а калі выходжу, то карыстаюся спрэямі. На іх склад не звяртаю ўвагі.



**Алёна Ключнік, у дэкрэтным адпачынку, вёска Фальваркі Астравецкага раёна:**
– У нас мала камароў, таму рэпелентамі не карыстаюся. Цяпер у мяне маленькае дзіця, таму жыву без хіміі. Дапамагаюць маскітныя сеткі на вокнах і дзвярах. Там, дзе мурашкі поўзаюць, раскладваю палын. Больш нічым не карыстаюся.



**Анжаліка Самаль, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Шчыра кажучы, нічым не карыстаемся. Дзіця насякомыя не чапаюць. Магчыма, таму, што мы позна не гуляем. Дома камароў няма. А на прыродзе карыстаемся спіралькамі, якія трэба падпальваць.

**Падрыхтавала Аляксандра ПАРАХНЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№29 (1107) 15.07.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 684. Падпісана ў друк у 9.00 14.07.2016.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E-mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.